# РЭАНІМОВА



суполкі імя Максіма Багдановіча №5

## паміж сэрцаў беларусь адна

Аб пагадненьні 1939 года паміж гітлераўскай Нямеччынай і сталінскім Савецкім Саюзам у апошнія часы і, зразумела, у гэтым годзе пісалася і гаварылася шмат. Пакт Рыбентропа — Молатава разглядалі гісторыкі, палітыкі і нават урадавая камісія.

А як да гэтага ставіцца з пункту гледжаньня простых людзей, з пункту гледжаньня народаў, лёс якіх залежаў ад таго, як дамовіліся палітычныя дзеячы суседніх магутных дзяржаў? Калі адносіны да савецка-нямецкіх пагадненьняў 1939 года літоўцаў, латышоў і эстонцаў зразумелыя, дык для беларусаў тут усё больш складана. На маю думку, нам нельга разглядаць гэтае пагадненьне асобна ад іншых падобных "пактаў", пачынаючы ад 18 стагодзьдзя нас дзялілі, далучалі, адлучалі, і кожны раз сьцьвярджалі нам, што гэта беларусам прыносіць вялікую карысьць, але нас саміх ніколі не пыталі, ці хочам мы той карысьці, ці ня хочам.

Дамовіўшыся паміж сабой, Сталін і Гітлер сваім пагадненьнем скасавалі другое пагадненьне — Рыжскае, па якім адбыўся ганебны падзел нашай бацькаўшчыны. У Рызе тады тварыліся дзіўныя справы. Нам заўсёды казалі, што БССР — гэта суверэнная дзяржава, але на перамовінах не было дэлегацыі ураду БССР: якія б там ні былі прычыны, але лёс Беларусі вырашалі бяз яе. Як пішуць у падручніках гісторыі "интересы БССР защищала делегация РСФСР". Добрая ж атрымалася абарона! Калі Беларусь лічылася толькі ўскраінай Расіі, тады ўсё зразумела — частку ўскраіны можна і аддаць. (Дарэчы, польскія гісторыкі сьцьвярджаюць і сёньня, што Польшчы аддавалі і Менск, але Пілсудскі не захацеў яго браць), але калі гэта дзяржава, то яна павінна была б змагацца за сваё існаваньне. Толькі ў казках каралі аддавалі палову каралеўства, у жыцьці такога не бывае. Па сутнасьці тое, што адбылося ў Рызе, вельмі нагадвае радкі зь верша Янкі Купалы:

Спрачаліся доўга,
як край наш раскрасьці,
дый сьпеліся ўрэшце:
парваць на дзьве часьці.

Адна часьць Варшаве
лізаць ногі будзе,
Маскве хай другая
нясе свае грудзі.

Забыліся толькі
хаўрусьнікі ночы
спытаць беларуса,
чым сам ён быць хоча...

Супраць падзелу Беларусі выступілі толькі тыя, каго Коўкель ды Станкевіч называюць зараз "злейшими врагами белорусского народа".

Беларускія патрыёты пачалі рыхтаваць паўстаньне, кіраўніцтва якім узяла на сябе Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Ствараліся партызанскія атрады, у якія аб"ядноўваліся дзесяткі тысяч чалавек. Да гэтага часу старэйшыя людзі на Гарадзеншчыне і Беласточчыне ўспамінаюць камандзера партызанскіх атрадаў Гарадзеншчыны Генрыха Скамароха, які наводзіў жах на польскіх акупантаў.

Партызаны выдавалі "месячную беспартыйную часапіс змагароў за Бацькаўшчыну "Беларускі партызан". У партызанаў была свая песьня.

Паўстаньне рыхтавалася і ва ўсходняй Беларусі, чаго да гэтага часу ня могуць "дараваць сучасныя гісторыкі". Але цяжка ўявіць, што магло быць інакш.

Усходнія часткі Беларусі былі ў складзе РСФСР, а ў кіраўніцтве БССР прымалі ўдзел людзі, якія нават не лічылі беларусаў за нацыю, як некалі заявіў сакратар ЦК КП(б)Б Кнорын. У заходняй Беларусі ў партызанскім руху разам зь іншымі партыямі ўдзельнічалі беларускія камуністы. І калі б ва ўсходняй не лавілі эсэраў, а згадзіліся дамовіцца зь імі і дапамаглі б паўстаньню хаця б зброяй, то можа ня было б такога ганебнага падзелу краіны. Але чамусьці суверэнная БССР ня выступіла супраць таго, што яе падзялілі суверэнныя РСФСР і II Рэч Паспалітая.

Партызанская барацьба вялася некалькі гадоў, але польская дэфензіва арыштавала кіраўнікоў паўстаньня і не дапусьціла шырокага выступленьня. Партызанскія атрады, што дзейнічалі паасобку, без падтрымкі, дрэнна ўзброеныя, не маглі перамагчы рэгулярнага войска.

З часам палітычная сытуацыя ў Польшчы зьмянілася. Улады хацелі выкарыстаць беларусаў у справе "Сярэдняе Літвы", а таму, што большасьць насельніцтва Віленшчыны складалася зь беларусаў-каталікоў. Было дазволена адчыняць беларускія школы ды гімназіі, узьнікалі легальныя беларускія арганізацыі. Да пачатку 30-х гадоў Польшча была яшчэ дэмакратычнай краінай, прадстаўнікі ад беларускага народу ўдзельнічалі ў працы Сойму II Рэчы Паспалітай, быў створаны Беларускі пасольскі клюб. Але польскі ўрад не адмаўляўся ад палітыкі паланізацыі, і змаганьне патрыётаў не прыпынялася, толькі зьмяняліся яго формы.

У 1924 годзе ў БССР пачалася "беларусізацыя". Да Беларусі вярнулі Віцебшчыну і Гомельшчыну. Беларуская мова заняла належнае ёй месца ў дзяржаве. Гэта вельмі павысіла аўтарытэт БССР. Беларусы ва ўсім сьвеце віталі такія перамены. Тут можна прывесьці радкі з працы ?. Іванова "Нацыянальная палітыка ў БССР і беларускае зьменавеха́ўства 20-х гадоў" аб тым, што "беларусізацыя" "растапіла насьцярожанасьць і нават варожасьць часткі нацыянальнай інтэлігенцыі. Прадстаўнікі палітычнай апазіцыі ператвараюцца ў "спадарожнікаў", а былыя "спадарожнікі" ў актыўных прыхільнікаў савецкай улады". Нават самараспусьціўся ўрад БНР, ягоныя кіраўнікі павэрылі ў "беларусізацыю" і імкнуліся дапамагчы БССР.

Урад БССР запрашаў на працу з-за мяжы беларускую інтэлігенцыю, але ні тыя, хто ехаў, ні тыя, хто запрашаў,

**Віталь Губарэвіч, загубленае імя**

З самай калыскі брыду родным шляхам.
Змалку дзіця шчэ, прыглядваўся я,
як пагарджалася шляхціцам ляхам
"Хамская"родная мова мая.

Як на душу узьдзявалі аковы
вернападданства панам -палякоў,
як нам казалі саромецца мовы,
што усмакталі ў сябе з малаком.

І як за тое, што веру дзядоўскую
на каталіцку зьмяніць не хацелі,
нас не пускалі ў гімназію польскую
і высьмявалі ксяндзы у касьцелі.

З працай, зь зямлёю гісторыя тая ж:
не адсушыў Бог язык тым выжыгам,
або праўдзівоў вярэў прымаеш,
а не — то з працы вылецішь мігам...

У трыццаць дзевятым у шчэпкі разьбітая
Польшча накрылася буквай пятнаццатай.
Мачыху нашу Рэч Паспалітую
айчым замяніў СССР адзінаццатай.

Сталі мы часткай. Свабодай і брацтвам;
нас накармілі па самае горла
лаянкай моцнай, распустай, лайдацтвам.
Сталі багатыя. Памяць зацёрла

Гэтыя годы зусім да астатку.
І вось на арэну гісторыі нашай
прыйшоў сорак першы. І ад пачатку
запахла ўжо порахам, дымам, "парашай".

А летам ўзьняліся на дыбы народы...
Пайшоў сын на бацьку, на брата браты...
Знаёмы дэвіз: каб дабіцца свабоды,
я заўтра падохну, а сёньня гінь ты!

## На сьмерць Сталіна

Яшчэ адзін вялікі жывадзёр
упаў з падножка шыбяніцы,
як той апошні метэор
прад ўсходам яснае дзяньніцы.

Пагас ілжывай славы сьвет
ў бясконцай цемені вякоў,
апошняя крыніца бед,
нашчадак тых правадыроў,

якія волю прыкавалі
бразні партыйнай ланцугом,
якія праўду захавалі
ў матэр"ялізма тоўсты том,
якія кроўю дзедаў нашых
памалявалі белы трон
і выпілі цярпеньняў чашу...
Зноў загучаў набатны звон.

І ўсёй Расеі цар чырвоны
з сярпом і молатам ў руках
пачаў зьбіраць народаў стогны
і сеяць мукі, сьлёзы, жах.
І ён, нашчадак Чынгіс-хана,
на шлях бандыцкі гэты стаў
і воляй цёмнага тырана
народ, свабоду катаваў.

А вы, вупыры, валкадавы,
зь ім поплеч ўжо дзесяткі год
глядзелі, як ён для забавы
зьнішчаў бяз жаласьці народ.

На ўсходзе, захадзе, паўночы,
Радзіма, у жахлівым сьне
выплаківаюць свае вочы
сыны найлепшыя твае.

Яго крывавых рук ахвяры
клянуць свой лёс у чужыне.
Ён кінуў іх ў турму на нары,
павесіў нумар на сьпіне.

Як пад яго рукою лютай
цякла ракой народу кроў,
як ён чырвонаю атрутай
лепшых рэспублікі сыноў
труціў, каб праўду не сказалі
сваім абманутым братом,
каб вочы як не адвязалі,
што завязаў ён іх дзядом,
каб затушыць пажар народны,
калючым дротам ўдоўж і ўшыр
акутаў - злыдзень- край гароты
ад гор Фінляндскіх па Памір.

І працай цяжкай не пад сілу,
сьпінаючы душы парыў,
мільёны іх загнаў ў магілу,
мільёны голадам змарыў.

І вось Радзіма дачакала -
ён праваліўся ў небыцьцё.
Ды што! Яго жыцьця замала,
каб заплаціць за іх жыцьцё.

Горкім жалем аблілася сэрца
па табе,дарагая айчына.
Колькі год я цярплю ў паняверцы,
але болей трываць немагчыма.
Прад вачыма душы
распусьціўся
ціхі,ясны,шырокі шлях.
Там, дзе мэты, у неба ўзьвіўся
перамогі магутны сьцяг.
І рукамі,самкнутымі шчыльна,
мы да волі бадзёра ідзём.

І юнацкай рукою сільнай
на змаганьне народ вядзём...,
Але гэта толькі надзея,
толькі мары ўзбалелай душы.
І цьвярозы мой розум ня грае
гэтых мар у бясконцай глушы.
Ён ня бачыць нічога —
цямнача.
Як той кажа, хоц вока калі.
Зыццам сонца патухла,
як печы.
Зыццам вымерлі усе на зямлі.

Куды ж выліць мой жаль немагчымы?
Каму ж душу адкрыць набалелу?
Дзе ж вы, грудзі каханай жанчыны?
Дзе спачынак разьбітаму целу?
Хто прытуліць мяне, небараку?
Хто тугу ў маім сэрцы растворыць?
Хто мне душу ачысьціць ад шлаку?
Хто пакажа мне выйсьце у прастору?
Ці я сам? Мусіць не. Гэта праца
патрабуе жалезнай душы.
Безумоўна патрэбна змагацца.
Трэба выпіць усе барышы.
Згуртаваць сваю волю патрэбна
у адзіны магутны кулак.
Тады зможам узяць нават неба,
а не толькі там нейкі Мон -В апс.
Як усе нашы брацьця-народы —
моту ясную ў сэрцы знайсьці,
праз усе перашкоды, нягоды
цьвёрдым крокам наперад ісьці.
Хай той шлях будзе цернем усланы.
Хай мы будзем ісьці ў кайданах.
Хай праклятыя Богам тыраны
касьцьмі нашымі ўсьцелюць той шлях
А мы будзем брысьці бязупынку.
Нехта ж будзе апошнім із нас.
І апошнюю горычы шклянку
нехта вып"е ў сьвяточны той час...
Устаньце ўсе!До! Пакіньма сварыцца.
З песьняй звонкай наперад гуртом.
До як дзед, перад кожным карыцца.
До як бацька, быць белым рабом!

Ліры маёй прызыўны гук
на сэрца далятае.
Радзіма, цяжкіх тваіх мук
твой сын не адчувае.

Бо калі б ён хоць раз пачуў,
як стогнеш ты пад крыжам,
ён бы ніколі не заснуў
гэдакім сном бясстыжым.

Калі б пабачыў ён хоць раз
тых сьлёз крывавых рэкі,
што у суровы гэты час
зьдзекі катаў зьдзекі,

ён моцнаю рукой бы ўзяў
дзядоў крывіцкіх слаўны меч
і зь ім пад сьцяг Пагоні
стаў,
каб кінуцца ў апошню сеч.

Пра Віталя Губарэвіча апавёў Мікола Канаш са Жлобіна, які адбываў разам высылку ў сталінскіх лагерах у Варкуце. Інша. Віталі садзеў за нацыяналізм, забралі з 10 класа. Вось урывак зь ліста Міколы Канаша: "Фота Віталя Губарэвіча ня маю, а толькі ведаю, што ён зь Дзятлаўскага раёна зь вёскі Навагельня. Нават добра не памятаю ягонага году нараджэньня, прыблізна 24-26...У 1956 з поўначы быў накіраваны ў Калужскую вобласьць на далейшае жыцьцё. Хвароў сухотамі. Даходзілі чуткі, што скончыў фармацэўтычны факультэт у Ленінградзе і працаваў аптэкарам. На Радзіму не вярнуўся. Вершы ягоныя завучыў напамяць. Іх мы і прапануем у сьціплай нізцы.

